# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## БАНДЫТЫ "Ў ЗАКОНЕ"

**30 траўня ў 17 гадзін у скверы каля тэатра імя Янкі Купалы сабраліся ўдзельнікі пікету ў падтрымку сямі зьняволеных украінцаў. Усе навакольныя двары ля адміністрацыі прэзідэнта за гадзіну да гэтага былі ачэпленыя міліцыяй. Міліцыя заклікала людзей разысьціся, пагражаючы ў іншым выпадку выкарыстаць сьпецсродкі для разгону дэманстрантаў. Прыкладна ў 17.20 над натоўпам зьявілася некалькі бел-чырвона-белых сьцягаў. У скверы зьбіралі подпісы пад заклікам вызваліць зьняволеных.**

У 17.25 міліцыя заклікала людзей сысьці з тратуараў. Невялікая група моладзі выйшла на перакрыжаваньне прасьпекту Скарыны і вуліцы Энгельса. Міліцыя паспрабавала ачапіць тратуар і тым самым ня даць натоўпу рушыць па прасьпекту Скарыны. Дэманстрантам загадвалі спыніцца і сысьці з тратуараў, але людзям не было куды падзецца.

Міліцыя пачала гвалтам ціснуць моладзь назад ў сквер. Пікетчыкаў хапалі людзі ў цывільным, зьявіўся сьпецназ. У міліцэйскія машыны запіхвалі некалькі маладых хлопцаў, а таксама двух чалавек 50-60 год, білі кулакамі ў сьпіну. "Беларускія фашысты б'юць людзей!", "Свабоду ўкраінцам!" - чуліся галасы...

Каля двух тысяч чалавек усё ж рушылі па прасьпекту Скарыны ў бок плошчы Незалежнасьці. Ля галоўпаштамта рух перакрыла міліцыя. Удзельнікі акцыі павярнулі, але каля Нацыянальнага банка іх ачапілі, і тых, хто не пасьпеў перабегчы на другі бок прасьпекту да ГУМа, зьбівалі і запіхвалі ў машыны. Усе, хто выпадкова ці невыпадкова апынуўся ў гэты час побач, аўтаматычна рабіліся парушэнцамі. Калі натоўп быў расьсечаны на абодва бакі прасьтпекту, нейкія людзі ў цывільным паказвалі міліцыянтам, каго трэба хапаць. Хапалі пераважна моладзь і людзей сталага ўзросту, якія спрабавалі абараніць тых, каго зьбівалі.

Па выказваньню дэпутата Л.Гразновай, якая была сьведкай дэманстрацыі, горад быў напоўнены міліцыяй, было налічана 18 міліцэйскіх аўтобусаў, выкарыстоўваўся газ.

Па папярэдніх дадзеных, міліцыяй затрымана каля 100 чалавек, каля 50 атрымалі цялесныя пашкоджаньні.

**Э.ТАРЛЕЦКІ.**

**P.S.:** *Дубінкаў атрымалі ня толькі ўдзельнікі, але і сьведкі, у тым ліку прэзідэнт дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы і супрацоўніца беларускага радыё Сьвятлана Курс. Г.Грушавы падкрэсьліў, што ніякіх правакацыйных дзеяньняў з боку пікетчыкаў не было.*

*Сьвятлана Курс прысутнічала на дэманстрацыі як журналістка. На яе вачах людзей білі, ялозілі па асфальту, кідалі аб дрэвы. Атрымала ад міліцыянтаў і яна сама. "Мы не павінны аддаваць ніводнага чалавека гэтым людзям. Яны іх зьбіваюць у аўтобусах, за зачыненымі дзьвярыма. Толькі тады мы будзем магутнымі, калі ніводзін чалавек ня будзе забраны з нашых шэрагаў!" - выказалася Сьвятлана Курс.*

## Прэзідэнту Украіны спадару Л.Кучме
## Старшыні Вярхоўнай Рады Украіны спадару О.Марозу
## Старшыні Народнага Руху Украіны спадару В.Чарнавілу

Выказваем глыбокую занепакоенасьць лёсам сямі грамадзянаў Украіны, якія незаконна ўтрымліваюцца ў менскай турме рэжымам, існым на Беларусі. Беспадстаўнае ўтрыманьне грамадзянаў Украіны ў турме, зьнявагі і зьдзекі, якім яны падвяргаюцца, сьведчаць пра грубыя парушэньні правоў чалавека ўладамі Лукашэнкі, і не спрыяюць добрасуседзкім дачыненьням.

Мы абураны жорсткімі непаважлівымі адносінамі да грамадзянаў Беларусі і Украіны, незаконна затрыманых у турме, зьвяртаем увагу сусьветнай супольнасьці на становішча чалавека ў грамадстве і ў турмах Беларусі, заклікаем узьняць свой голас у абарону права і годнасьці асобы.

Тысячы грамадзянаў Беларусі публічна выступілі ў Менску ў абарону чалавечых правоў з патрабаваньнем выпусьціць з турмы ўкраінцаў. Рэжым кінуў супраць іх сьпецыяльныя ўзброеныя сілы, створаныя і падрыхтаваныя Лукашэнкам для зьбіваньня людзей і барацьбы з дэмакратыяй. Сусьветная супольнасьць і кіраўнікі суседніх краінаў не павінны ігнараваць той факт, што побач, у цэнтры Эўропы, стварыўся антыдэмакратычны, антынародны, прамаскоўскі аўтарытарны рэжым, які пагражае спакою і стабільнасьці ва ўсім рэгіёне.

Правы чалавека гэта ня толькі ўнутраная справа адной краіны. Мы спадзяемся, што прэзідэнт, парламент, урад і палітычныя сілы Украіны выступяць у абарону міжнароднага права і годнасьці чалавека, якія зьневажаюцца ўладамі Беларусі.

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне",**
**Сяргей НАВУМЧЫК,**
**прадстаўнік Беларускага Хельсінскага камітэту за мяжой.**

## "ТОЛЬКІ МАЛАДЫХ!"

**Штораз, бываючы ў сталіцы, імкнуся выкарыстаць вячэрні час, каб наведаць тэатр. Гэтым жа разам давялося трапіць у жахлівы тэатр абсурду, у праўдзівае зачараванае пякельнае кола, дзе творыцца зьдзек і гвалт над людзьмі, дзе пануе нянавісьць.**

Тым вечарам, 30 траўня, моладзь ладзіла пікет у абарону зьняволеных за ўдзел у Чарнобыльскім шляху. Ужо на самым пачатку пачалося нешта неверагоднае, дайсьці да сэнсу чаго было немагчыма. Ланцугі міліцыянтаў абкружылі моладзь, пачалі хапаць і цягнуць да машын людзей, зьбіваючы іх. Натоўп хлынуў на прасьпект. Нейкая сотня чалавек перарасла хіба ў тысячны натоўп, што запрудзіў вуліцу.

Каля нас, махаючы дубінкамі, жахлівай лавінай пранеслася сапраўдная зграя ў белых касках. Ашаламілі воклічы, што ў якасьці каманды несьліся над гэтай нялюдзкай сілай, якая наганяла на людзей жах: "Толькі маладых!", "Біце толькі маладых!", "Хватайце толькі маладых!" На гэта абураная бабулька з адчаем усклікнула: "А нас - што!?" Мужчына побач не без іроніі заўважыў: "І вы хочаце дубінкай па галаве?" Не, ніхто з нас не хацеў гэтага. Але ж мы не хацелі, каб на нашых вачах білі людзей, якія не заслужылі гэтага. Ніхто не сыходзіў. Прыпыняліся выпадковыя прахожыя. Ды і прайсьці было немагчыма.

Людзьмі апанавала жахлівая нянавісьць. Да гэтага нялюдзкага рэжыму, да прыніжэньня. Да тых, хто павінен берагчы лад і спакой на нашых вуліцах, а заміж гэтага - наладжвае сапрўднае паляваньне на тых, хто выказвае сваю нязгоду з рэжымам.

Над натоўпам воклічы: "Ізноў гоняць!" Акружаюць моладзь жалезным колам, кідаюць у машыны. Хапаюць за валасы. Маладых хлопцаў, дзяўчат.

У галаве - жах, адчай ад сваёй нlanguagedольнасьці нешта зрабіць, дапамагчы. Ад бясьсільля.І з тых, савецкіх часоў усьлед за воклічам "Толькі маладых!" выплывае агульнавядомы матыў: "Молодым везде у нас дорога..." Якую ж дарогу вызначылі сёньняшнія ўлады нашай моладзі? Гэтыя ўлады з учарашняга дня, што так настойліва вялі нас у сьветлае заўтра. Яно ж аказалася злавесным сёньня.

Над усім прасьпектам неслася магутнае: "Ганьба!", "Свабоду!", "Жыве Беларусь!" Падумалася, што гэты стогалосы вокліч змог прагучаць толькі над прасьпектам Скарыны. Мінуў час заўсёды спакойнага Ленінскага прасьпекта. Моладзь Беларусі пасьпела глытнуць свабоды.

Мой менскі сябра сказаў мне на разьвітаньне, крыху іранізуючы над маімі правінцыйнымі эмацыянальнымі ўсплёскамі: "Можна разыходзіцца. Ты выканала свой грамадзянскі абавязак". У мяне ж засталося неадольнае жаданьне, якое я так і не змагла спраўдзіць. Увесь час хацелася падысьці да людзей з дубінкамі, верачы, што яны ўсё ж людзі, і спытаць: "Адкуль у вас такая нянавісьць да моладзі? Хто навучыў вас біць бяззбройных людзей? Яны ж сабраліся ўсяго толькі дзеля таго, каб адкрыта выказаць свой пратэст". Але мае добразычлівыя сябры, што ўжо не аднойчы былі на такіх "імпрэзах", папярэджвалі: гэта будзе для іх прычынай схапіць і цябе. Я не жадаю, каб мяне хапалі. Але мне зусім ня сорамна за гэты страх. Мне ненавісны ўсялякі гвалт. Як кожнаму чалавеку. Мне хацелася задаць наша спрадвечнае беларускае пытаньне, якое шаптаў "са сьлязьмі і так ціха. што не чвваць і сабе самому", паміраючы, няшчасны беларус Хомка: "За што?.." (М.Гарэцкі "Ціхая плынь").

Наша абуджаная беларуская моладзь не жадае больш здавацца ціха. Яна прачнулася. Яна ўжо не бясслоўная ахвяра. У ёй жыве нязгода з гвалтам. У ёй гучыць магутнае "Жыве Беларусь!"

"...Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі "Наша ніва" ўрываліся жандармы і "ахраннікі", зьдзекаваліся над людзьмі, працуючымі там, забіралі рукапісы і ўрэшце цягнулі ў вастрог у нічым не павінных людзей..."

Вялікі Купала! Гэта пра сёньняшні час тваё балючае слова. Гэта сёньня ў рэдакцыю адноўленай "Нашай нівы" ізноў "урываюцца", ізноў зьдзекваюцца з людзей, цягнуць у вастрог. Ізноў рэкамендуюць, "барані Божа", не чытаць апазіцыйную прэсу.

Артыкул, які цытую, мае ўзьнёслую і так актуальную сёньня назву: "Моладзь ідзе!" У душы кожнага, хто бачыў магутны поступ беларускай моладзі ў нашай сталіцы гэтай вясной, разам з пачуцьцём трывогі і болю ня можа не ўзьнікнуць і пачуцьцё вялікага гонару. Яшчэ раз нагадаем словы нашага Прарока:

"Адбудаваньне незалежнасьці Беларускай дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь.

Чэсьць і слава табе, беларуская моладзь!..

Ты сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і сьвятлейшую будучыню.

Набок з дарогі, панове і гаспада з Захаду і Усходу!

Беларуская моладзь ідзе!"

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ.**




## ГЛУХАНЯМЫ "СКВЕРНОСЛОВИЛ"

**"Мэтай улады 30 траўня было не навядзеньне парадку, а запалохваньне ўдзельнікаў акцыі ў падтрымку палітвязьняў", - зазначыў 3 чэрвеня на прэс-канферэнцыі Беларускага Народнага Фронту намесьнік старшыні БНФ Вінцук Вячорка.**

На ёй было заяўлена, што 30 траўня Фронт атрымаў афіцыйнае папярэджваньне ад пракурора Менску Мікалая Купрыянава аб незаконнасьці правядзеньня несанкцыянаваных акцыяў. На думку В.Вячоркі, гэтае папярэджваньне можа быць выкарыстана Міністэрствам юстыцыі для забароны Фронту. Акрамя таго, ён паведаміў, што арыштаваны банкаўскі рахунак Фронту.

Закцэнтаваўшы ўвагу на наступствах акцыі 30 траўня, арганізатары прэс-канферэнцыі паведамілі, што затрымана некалькі соцень пратэстуючых, многія трапілі ў шпіталі.

Сярод зьбітых дэпутатаў Менгарсавету сп.Марозаў. Быў прыведзены прыклад фальсіфікацыі пратаколаў пры затрыманьні. Так, глуханямы ўдзельнік акцыі 30 траўня абвінавачваўся ў "скверназлови".

## ЮСТЫЦЫЯ ПАПЯРЭДЖВАЕ: ІНШАДУМСТВА НЕБЯСЬПЕЧНА...

**4 чэрвеня Беларускі Народны Фронт атрымаў афіцыйнае папярэджваньне Міністэрства юстыцыі. Нагодай для гэтага стала прыняцьце на адным з паседжаньняў Фронту звароту да міліцыі з заклікам не выконваць злачынных загадаў кіраўніцтва, якія супярэчаць Закону. На думку прадстаўнікоў Міністэрства юстыцыі, гэты зварот аказвае націск на органы правапарадку.**

Былыя палітвязьні - намесьнік старшыні Фронту Юры Хадыка і сакратар Управы Фронту Вячаслаў Сіўчык, якія знаходзяцца ў 3-ім клінічным шпіталі Менска пасьля правядзеньня працяглай галадоўкі ў турме,-таксама атрымалі папярэджваньні ад пракуратуры. У ім гаворыцца, што правядзеньнем прэс-канферэнцый і прыняцьцем звароту Ю.Хадыка і В.Сіўчык аказваюць націск на сьледзтва, у сувязі з чым іх зноў могуць забраць у турму.

## ТАТА БЕЛАРУСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ

4 чэрвеня сьпікер беларускага парламенту С.Шарэцкі выступіў з паўгадзіннай прамовай. Ён крытыкаваў прэзідэнта А.Лукашэнку за прыгнёт людзей, якія выказваюць сваю незадаволенасьць палітыкай прэзідэнта. "Падстаў для незадаволеньня ў нашай краіне сёньня хапае", - заўважыў сьпікер. На яго думку, нават сам інстытут прэзідэнцтва не адпавядае патрэбам Беларусі, дзе найлепшай формай праўленьня здаўна лічыцца эўрапейская парламенцкая рэспубліка.

Гэта досыць нечаканы дэмарш С.Шарэцкага. Падставы для незадавальненьня зьявіліся ня сёньня і ня ўчора. Людзей і нават дэпутатаў парламенту пачалі "дубасіць" гумамі таксама даўно. Законнасьць парушалася з пачатку кіраваньня прэзідэнта. Нічога гэтага Шарэцкі раней не заўважаў. Наадварот, "аддана" выгаворваў З.Пазьняку, БНФ і суседняй краіне (Польшчы, канешне) за кепскія паводзіны.

Некаторыя схільны лічыць дэмарш сьпікера вынікам яго замежных паездак і размоў з акуламі капіталізму і дэмакратыі альбо новай палітычнай гульнёй аграрыяў. На самой справе ўсё прасьцей. Прамова С.Шарэцкага - адна з выяў падзелу паўнамоцтваў паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі. Выканаўчая ўлада частуе людзей гумамі, а сьпікер парламенту перад Захадам дэманстратыўна дбае пра дэмакратыю.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## ЯКІ САЛДАТ НЕ ТРЫМАЕ Ў РУКЗАКУ АДРЭЗАНЫЯ ВУШЫ...

У суботу, 1 чэрвеня, па расейскім тэлебачаньні паказвалі праграму вядомага фальсіфікатара і падбухторшчыка А.Няўзорава. У адным з сюжэтаў расейскія вайскоўцы дэманстравалі адрэзаныя вушы чачэнскіх паўстанцаў. Я нават чакаў, што зараз пакажуць плот з пасаджанымі на слупы галовамі, настолькі цемрашальным жывадзёрствам дыхаў тэлевізар.

Вось так крочаць па жыцьці расейскія салдаты: з адрэзанымі вушамі ў рукзаку. Не магу ўявіць, каб салдаты вялікай айчыннай насілі з сабой вушы нямецкіх байцоў. Што зрабілі б з такім садыстам палітрукі, каманьдзіры і вайсковая бясьпека "смерш"?

Адзін знаёмы міліцыянт патлумачыў, што гэтыя людзі болей ніколі *ня стануць на шлях* цывілізаванага жыцьця. Яны вернуцца ў грамадзтва, частка ўвальецца ў міліцэйска-армейскія структуры, а астатнія непазьбежна выбяруць іншы спосаб зарабляць на жыцьцё – крымінальны. Злачынныя аўтарытэты высока ацэняць людзей, якія ганарацца адрэзанымі ў забітых ахвяр вушамі.

Наступным разам, напэўна, А.Няўзораў пакажа выразаныя на грудзях "чачэнаў" паўмесяцы...

**Паўлік МАРОЗАЎ.**







# ДУДЗЕЦЬ ТРЭБА ЎМЕЦЬ І ВЕДАЦЬ ПЕРАД КІМ

**“- Мы проводим государственную политику. А тот, кто с ней не согласен, может пользоваться услугами 300 независимых телерадиокомпаний, зарегистрированных в Белоруссии”. Так намесьнік кіраўніка белдзяржтэлерадыёкампаніі Віктар Дудко адказаў на пытаньне польскага журналіста наконт абмежаванага доступу да дзяржаўных тэлебачаньня і радыё сяброў беларускай апазіцыі.**

Спробы польскіх журналістаў дапытацца ў сп.Дудко, дзе ж гэтыя міфічныя незалежныя тэлерадыёкампаніі і колькі з іх працуе на самой справе, так і не знайшлі адказу - намесьнік міністра разводзіў рукамі ды паціскаў плячыма.

30 траўня ў Горадні прайшоў семінар “Узаемадзеяньне Беларусі і Польшчы ў галіне радыёвяшчаньня. Узмацненьне ролі радыё ў супрацоўніцтве Беларусі і Польшчы”. Удзел у яго працы бралі дырэктар бюро дзяржаўнай рады па справах тэлевізіі і радыё Раман Ярасіньскі, прэзідэнт радыё “Беласток” Ежы Мушыньскі, старшыні ўсіх абласных тэлерадыёаб'яднаньняў Беларусі. Кіраўніцтва белдзяржтэлерадыёкампаніі было прадстаўлена намесьнікамі старшыні кампаніі Віктарам Дудко, Уладзімірам Ядрынцавам і Уладзімірам Купрыенкам. Сам старшыня - сп.Кісель - разам з прэзідэнтам адпачываў у Сочы.

Распачаў семінар намесьнік старшыні аблвыканкаму Мікалай Калацэй, які паведаміў прысутным пра “коренные прогресивные изменения в сельском хозяйстве”, “спад в мукомольно-круляной промышленности” і пажадаў усім “большого личного счастья”.

Ня менш занудную прамову “пра ўсё” зрабіў і Віктар Дудко. Але менавіта яго выступ абудзіў ад сна польскіх журналістаў. Шакіраваныя інфармацыяй аб тым, што беларускае тэлебачаньне і радыё цалкам фінансуецца з бюджэту краіны, і паведамленьнем пра існаваньне ў Беларусі трохсот незалежных тэлерадыёстанцый, палякі адразу ж учынілі сп.Дудко сапраўдны допыт:

- Калі вашае тэлебачаньне і радыё фінансуецца ўрадам, дык ад яго і залежыць?

- Нас гэта задавальняе. Хто яшчэ сёньня будзе нам плаціць? З урадам у нас разыходжаньняў няма. З Вярхоўным Саветам - былі. Дэпутаты патрабавалі ад нас штодзённых прамых трансляцый з сесіі. Мы правялі сацыялагічнае апытаньне: народ супраць!

- Як вам удалося ўстанавіць цэнзуру?

- Якая можа быць цэнзура, калі праграмы выходзяць у эфір?

- Але ці мае доступ да эфіру, напрыклад, сп.Пазьняк і іншыя сябры апазіцыі? Ці могуць вашыя журналісты падаваць аб'ектыўна інфармацыю, зьвязаную з падзеямі вакол апазіцыі?

- Мы - дзяржаўная тэлерадыёкампанія, якая праводзіць дзяржаўную палітыку. Да паслугаў апазіцыі ёсьць трыста незалежных тэлерадыёстанцый, пра якія я казаў.

- Колькі ж з гэтых незалежных станцый працуе?

- У мяне такой лічбы няма.

У якасьці каментара да адказаў сп.Дудко варта дадаць адно: дудзець трэба ўмець і ведаць перад кім. Тым жа палякам добра ведама пра сітуацыю на Беларусі. Спробы “зьдзівіць” іх міфічнай колькасьцю незалежных тэлерадыёстанцый, калі на той жа Гарадзеншчыне працуе толькі адна недзяржаўная радыёстанцыя з эфірным часам 30 хвілін у дзень, проста выглядалі недарэчнымі.

Слова на семінары брала і галоўная рэдактарка рэдакцыі вонкавага вяшчаньня беларускага радыё і тэлебачаньня Алена Аўрынская. Адказваючы на пытаньне карэспандэнта “ПАГОНІ”, ці мае Беларусь хоць аднаго ўласнага карэспандэнта за мяжой і як будзе выглядаць той жа абмен інфармацыяй, калі беларускі бок у гэтым пытаньні кіруецца “дзяржаўнай палітыкай”, сп.Аўрынская паведаміла, што карэспандэнтаў за мяжой няма. Што ж датычыць абмену інфармацыяй, то беларускі бок будзе пазьбягаць вострых палітычных пытаньняў, як і робіць гэта сёньня.

Да пытаньняў канкрэтнага ўзаемадзеяньня Беларусі і Польшчы ў галіне радыёвяшчаньня размова на семінары так і не дайшла. Адзіны рэальна распрацаваны праект - аб стварэньні ў Горадні сумеснай з “Радыё Беласток” радыёстанцыі - які ўжо час ляжыць “пад сукном” у Менску. А гэта азначае, што і надалей той жа Беласток будзе мець 24 гадзіны ўласнага радыёвяшчаньня, а Горадня - трансьляваць расейскія тэлерадыёканалы і “выбіваць” хвіліны эфіру на адзіным агульнанацыянальным канале.

**Вітаўт РУДНІК.**

# НІ ЗЯМЛІ, НІ ВОЛІ

**У далукашэнкаўскія гады вядомы ў Смаргоні мастак, сябра раённай Рады БНФ Валянцін Варанішча здабываў свой хлеб мастацтвам. А з прыходам да ўлады прэзідэнта смаргонскія людзі зусім зьбяднелі і грошай стала неставаць нават на харчаваньне, не кажучы пра карціны. Тым больш, існуючая ўлада пачала выхоўваць у людзей грэблівыя адносіны да ўсяго беларускага. Зьневажаць жа сябе і Беларусь маляваньнем лукашэнкаўскай сімволікі Валянцін не захацеў, а таму вырашыў заняцца фермерствам, працягваючы маляваць для душы і сяброў.**

Пераадольваючы цяжкасьці, атрымаў 16 гектараў ня лепшай зямлі аж у 15 км ад Смаргоні і ў мінулым годзе зьняў першы ўраджай. Здаецца, можна было б і ўздыхнуць з палёгкай. Але ж вядома, калі баліць сэрца за родную старонку, не ўсталёўваецца ў душы спакой. Ды і палітычныя апаненты тым часам актывізуюцца, бо давёўшы да нэндзы калгасы, ім трэба паказаць грамадзтву, што і фермерства - ня іх шлях. Тым больш, ні ў якім разе нельга дапусьціць, каб прыкладам у вядзеньні фермерскай гаспадаркі быў сябра БНФ. Ну а калі раённая “вертыкаль” даведалася, што пад час выбарчай кампаніі 1995 года ў Валянціна кватэраваў Зянон Пазьняк, зусім у яе прапаў сон і спакой. Можна меркаваць, што асабліва пакутуюць гэтымі хваробамі кіраўнік аграрнага сектара райвыканкама, былы першы сакратар гаркама КПСС І.Велькашынскі і ягоны сябра, старшыня Смаргонскага райвыканкама Н.Кавалёў.

Але аб усім па парадку.

Пачаўся пераслед з самага пачатку, яшчэ пры рэгістрацыі ў якасьці фермера. На Валянціна быў накладзены штраф за тое, што не зарэгістраваўся ў падатковай інсьпекцыі. Але, дзякуй Богу, у складзе раённай арганізацыі БНФ знаходзяцца аж чатыры юрысты, якія не дапускаюць ніякай дурасьці ў дачыненьні да сваіх сяброў. Вось і аказалася, што штраф быў накладзены беспадстаўна, бо вышэйшая інстанцыя спагнаньне адмяніла.

Не пасьпеў Валянцін зьняць першы ўраджай, як зноў прычапілася падатковая інсьпекцыя і псавала нервовую сістэму больш за месяца, выклікаючы да сябе ледзь ня кожны дзень, дапытваючы, чым ён корміць сьвіньню, бо не паказаў гэтага на паперы. Але, як кажуць, высмактаны з пальца пратакол аб парушэньні падатковага заканадаўства быў зноў анулёваны.

Не знайшлося ў межах раёна для яго ў гэтым годзе ні насеньня, ні паліва на пасяўную, ні ільготных крэдытаў.

Вядома ж, што кіраўніцтва сучаснай улады, дзе аселі былыя палітрукі, дзеля захаваньня ўлады б'е бязьлітасна нават ляжачага.

І вось некалькі дзён таму Валянцін атрымаў выклік у землеўпарадкавальную службу раёна. Як вядома, нашы кантралёры, якіх развялося мноства, зусім не шануюць падаткаплацельшчыка, а таму ня лічаць неабходным паведамляць, дзеля чаго адрываюць яго ад справаў. Таму на гэты раз за адсутнасьцю вольнага часу Валянцін па беспадстаўнаму выкліку не пайшоў. Але яго сустрэў супрацоўнік гэтай службы на вуліцы і папярэдзіў: за непавагу да нас мы ў цябе зямлю адбярэм.

Дык што, век не відаць ні зямлі, ні волі?

**Мікола КАВАЛЁЎ.**

# ЯШЧЭ АДНА СПРОБА ЗАПУСЬЦІЦЬ ЭКАНОМІКУ

**Прэзідэнт А.Лукашэнка паехаў адпачываць на Чорнае мора. Канец траўня ён прысьвяціў вырашэньню эканамічных пытаньняў. Што цалкам зразумела: два гады пайшлі на ажыцьцяўленьне утапічных задумаў аднавіць СССР. А за гэты час крызісныя зьявы паглыбіліся да небясьпечных памераў.**

**За эканоміку прэзідэнт узяўся, маючы перад сабой гэтыя самыя ўтапічныя мэты: з адзінага цэнтра на вуліцы К.Маркса ў Менску эфектыўна кіраваць любым прадпрыемствам, калгасам ці крамай, будзь тое ў Воршы альбо ў Бераставіцы.**

## “ФОРДУ” - ЗЯЛЁНУЮ ВУЛІЦУ

Першым з шэрагу травеньскіх эканамічных указаў прэзідэнта быў указ N 178 ад 21 траўня. З яго вынікае, што А.Лукашэнка перайшоў ад запуску заводаў гуртам да запуску іх паасобку. Указам ухвалеецца стварэньне сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства па вытворчасьці аўтамабіляў “Форд”. Будучае прадпрыемства вызваляецца ад выплаты падатку на прыбытак на 5 гадоў. Яно таксама вызваляецца ад мытных падаткаў за ўвезенае на Беларусь абсталяваньне. Беларускі бок перадае “Форду” частку маёмасьці Менскага трактарнага завода. Плануецца выпускаць аўтамабілі “Форд-Эскорт” і “Форд-Транзіт”. Прыблізны кошт мадэляў - 10-15 тысячаў даляраў.

Тут выразна бачна імкненьне А.Лукашэнкі далучыць да “фордаўскага” цягніка МТЗ, на якім ён увёў “прамое кіраваньне”. Пра гэта сьведчаць таксама агульныя метады “запуску”. Як і “Форду”, Менскаму трактарнаму абяцаюць падатковыя ільготы, а яшчэ бясплатныя крэдыты.

Калі б такія станоўчыя ўмовы наша дзяржава ствавала ўсім замежным інвестарам, можна было б парадавацца рэалізму прэзідэнта. Аднак, у дадзеных умовах узьнікаюць пытаньні. Напрыклад, чаму менавіта “Форду” такія крэдыты? Ці не вядзецца дзесьці ў высокіх кабінетах падвоеная бухгалтэрыя? Хто будзе ўзначальваць СП? Як будзе размяркоўвацца прыбытак?

Ёсьць пытаньні і іншага кірунку. Калі яшчэ за часамі СССР туркі будавалі вайсковыя гарадкі, айчынныя будаўнікі дужа крыўдавалі. Маўляў, за такія грошы мы б зрабілі ня горш. І мелі рацыю. Калі зараз вызваліць ад падаткаў тыя ж аўтабазы, прадпрыемствы лёгкай і харчовай прамысловасьці, даць ім ільготныя крэдыты - назаўтра яны “заваляць” прадукцыяй рынак краіны і павязуць яе нават за мяжу.

Вынік такі: за кошт астатніх беларускіх і замежных прадпрыемстваў кампанія “Форд” набыла выключныя ўмовы для “пад'ёму” ва ўсходнеэўрапейскім рэгіёне. Я асабіста рады за “Форд” і за ягоны будучы звышпрыбытак. Няхай фордаўскія менеджэры самі турбуюцца, узгадваючы лёс замежных канцэсіянераў у бальшавіцкім СССР.

## РАБОЧЫХ - ЗА ВАРОТЫ. ГУЛЯЙ, ВАСЯ-ПРАДПРЫМАЛЬНІК...

Наступным указам N 208 ад 24 траўня прэзідэнт, нарэшце, прыняў рашэньне па аднаўленьню рэгістрацыі суб'ектаў гаспадараньня. Фірмы, якія існавалі раней, мусяць перарэгістравацца ў аблвыканкамах. Калі яны ня пройдуць перарэгістрацыю, то будуць зьліквідаваныя, прычым на падставах, якія дзейным заканадаўствам не прадугледжаныя (напрыклад тыя, хто дапусьціць стратную дзейнасьць па выніках года, - радуйцеся, рабочыя і калгасьнікі! Ня менш трэці ўсіх прадпрыемстваў стратныя). Для некаторых грамадзянаў будзе дзейнічаць забарона на стварэньне прадпрыемстваў і рэгістрацыю прадпрымальніцтва. Прэзідэнт таксама зьбіраецца рэгуляваць колькасьць недзяржаўных гандлёвых фірмаў і гандляроў-прадпрымальнікаў (напрыклад, ваша фірма “Х і У” - лішняя. Гуляй, Вася!)

Гэты ўказ цалкам хавае капіталізм на Беларусі. 24 траўня можна лічыць днём нараджэньня “рыначнага сацыялізму”, які існуе ўжо два гады.

## БАНКІР - ЯК ПРОСТЫ ЧАЛАВЕК...

Указ N 209 ад 24 траўня прыраўноўвае банкіраў да звычайных савслужбоўцаў. Перш за ўсё - па аплаце працы. Заробкі ім будуць налічвацца па агульнай тарыфнай сетцы, ну, зусім як настаўнікам або фельчарам. Крэдытаваньне без залогу маёмасьці забараняецца. Махінацыі з выплатай дэпазітаў на год уперад робіцца немагчымымі.

Усе банкі будуць змушаныя павялічыць долю дзяржавы ў статутных фондах згодна першапачатковым укладам дзяржаўных прадпрыемстваў. Кабінет Міністраў атрымаў права, таксама насуперак заканадаўству, непасрэдна ўмешвацца ў дзейнасьць кіруючых органаў банкаў. Нацбанк атрымаў права пратэсціраваць кіраўнікоў банкаў (ці любіць Радзіму-маці?! А бацьку?), хто не падышоў - выгнаць.

Сярод бізнэсмэнаў банкіры займалі асаблівае месца. У свой час, усе памятаюць, як імгненна з нічога ўздымаліся псеўдакамерцыйныя банкі, як туды пасела камуністычная наменклатура. Аднак цяпер мінулае вяртаць - сабе даражэй.

Дзяржава, дапусьцім, сваё верне. А ці зможа селянін вярнуць адабраныя ў яго бацькі (дзеда) зямлю, дом, хлеў, каня, жывёлу? А хто мне верне змарнаваныя ўклады?

Маўчыць птушка-тройка...

**Сяргей САМАСЕЙ.**

ГАРАДЗЕНСКІЯ БАЗАРЫ

# РЫНАК УЖО НЕ НАГАДВАЕ КІРМАШ

**На пачатку 90-х гадоў у Горадні працаваў толькі адзін рэчавы рынак. Тысячы гараджан запаўнялі невялікую рынкавую плошчу і ходнікі, якія прылягаюць да яе. Людзі прыходзілі туды ня толькі дзеля таго, каб нешта купіць або прадаць, але і сябе паказаць ды на іншых паглядзець. Усюды гучала музыка. У паветры пахла смажанымі шашлыкамі. Гандляры і пакупнікі былі ў прыўзьнятым сьвяточным настроі, уласьцівым толькі кірмашу.**

У мінулую суботу я наведаў рынак у Паўднёвым. Адразу ўбачыў змрочныя, засяроджаныя твары. Усьмешак амаль не было відаць. Весяліліся толькі нешматлікія п'яныя.

**Ігар, гандлюе ў сваім намёце разам з жонкай:**

“- За месца я плачу 1 008 000 рублёў у месяц. Мне за гэта даюць 10 квадратных метраў асфальту і ўсё. За таварам езьдзім у Польшчу, зарабляем ня шмат. Прадпрыемствы не працуюць, расьце беспрацоўе, а кожнаму трэба жыць. Год назад было 300 намётаў, сёньня - больш тысячы. Як курс даляра пайшоў уверх, падняліся кошты, і магчымасьць прадаць нешта стала меншай. А яшчэ два тыдні назад даў тавары на рэалізацыю адной жанчыне. Яна яго вярнула, бо не змагла прадаць. Не пасьпеў я яго аформіць у паперах, як зьявіліся падатковыя інсьпектары. Аштрафавалі на 1 600 000 рублёў. Зараз адпрацоўваем гэтыя грошы. Наогул, ня бачу ніякіх перспектываў. Ні ў чым”.

**Міхась, займаецца камерцыяй разам з братам:**

“- Тут працуюць людзі, якія імкнуцца зарабіць грошы сумленным шляхам. Яны не пайшлі ні рабаваць, ні браць хабар. Ёсьць сяржанты ДАІ, мытнікі, чыноўнікі, якія кураць “Мальбара”, езьдзяць на шыкоўных аўтамабілях і спакойна ходзяць на дзяржаўную працу. А тут увесь час трэба круціцца, начамі ня спаць. І ўмовы працы жадаюць быць лепшымі. Недзе год назад аплата за гандлёвае месца павялічылася амаль у два разы. Тлумачылася гэта тым, што неабходна палепшыць пад'язныя дарогі. Можа нешта і робіцца, але неяк непрыкметна. Пры ўезьдзе на аўтастаянку ёсьць не закрыты каналізацыйны люк. Я бачыў сьведкам, як два разы туды ўвальваліся машыны. А месяц назад падвозіў дзьвюх жанчын, было яшчэ цёмна, калі яны выйшлі і прайшлі пару крокаў, адна нечакана зьнікла. Праваліліся ў люк, вельмі моцна абдзерлася. Да гэтай пары яма адкрыта, толькі нехта ўтыкнуў туды галіну.

Заробкі невялікія, толькі каб пражыць. Тыя, хто маюць некалькі гандлёвых месцаў і шмат тавару, зарабляюць нядрэнна. Але такіх мала”.

**Алег, былы намесьнік начальніка цэху, скарочаны з свайго прадпрыемства:**

“- Увесь заробак ідзе на харчаваньне сям'і, больш нічога купіць немагчыма. Раней я не лічыў выдаткі, а зараз жонка кажа, што не хапае грошаў. Прыйдзецца рабіць падлікі, ад нечага адмаўляцца”.

Я не зьбіраюся сьцьвярджаць, што гандляры - самыя бедныя ў нашым грамадзтве. Але яны свой хлеб зарабляюць нялёгкай працай, спрабуюць самастойна вырашыць свае праблемы, ня просяць дапамогі ў дзяржавы. Наадварот, улады ўвесь час імкнуцца выціснуць з іх як мага больш грошаў. Гандляры перад дзяржрэкетам абсалютна безабаронныя. Яны могуць толькі прыхоўваць частку прыбытку, што дае падставу падатковым службам спаганяць з іх штраф. Камерсанты самыя вінаватыя. Калі справы ішлі больш-менш добра, яны вырашылі, што праіснуюць пры любой уладзе, і не зьвярталі ўвагі на палітычныя працэсы, якія адбываліся на Беларусі.

На рынку адзін хлопец спалохаўся дыктафону і не захацеў размаўляць. Пасьля таго, як я выключыў запіс, ён рашуча сказаў: “Трэба на плошчу выходзіць і абвяшчаць сядзячы страйк”. На маё пытаньне, пра якую плошчу ён гаворыць, калі нават для газеты нешта сказаць баіцца, адказ быў такі: “На плошчу не пайду. Прышлюць АМАП, як у Менску, і ўсіх разгоняць. А ў мяне двое дзяцей, іх карміць трэба”. Я так і не зразумеў, хто павінен выходзіць на сядзячы страйк, каб яму лепш гандлявалася.

Успомніўся фотаздымак у “Народнай волі”: схуднелы Вячаслаў Сіўчык у шпітальным ложку. Ён свайго васьмімесячнага сына, напэўна, любіць ня менш, чым рынкавы гандляр сваіх дзяцей, а рызыкаваў жыцьцём. Людзі, якія ў Менску сьвядома ішлі пад міліцэйскія дубінкі, таксама маюць што губляць. Але яны ведаюць - з дыктатурай трэба змагацца. Яна сама ня зьнікне.

**Д.КІСЕЛЬ.**



# РЭКЛАМА ☎45-29-96, факс: (0152)45-35-61



## ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАЮ

* мыйкі-нержавейкі, помнікі гранітныя. Тэл.:(0172) 264-27-69
* трактар МТЗ-80, прычэп. Тэл.: у Іванава 2-13-86
* палатку 4-х мясцовую; пліту газавую, складную, турыстычную, 2-хкамфорн.; рухавік БМВ-520 на запчасткі. Тэл.: у г.Масты 2-14-70
* манітор VGA. Тэл.: (0172) 230-88-16
* аўтамабілі ФВ-Пассат, беньзін, нерастамож. 84 г.- 1,8 т.д., 86 г.-2,4 т.д.
* запчасткі КА 750. Тэл.: 44-92-46
* каробку перадач Форд-Гранада 2.0 за $ 110, карзіну счапленьня - $ 40. Тэл.: 33-30-93, 99-60-19; працоўны 6-18-99, Валеры Сямёнавіч
* матацыкл "Ява-350-634, 6 В, 20 тыс.км, у вельмі добрым стане з поўным камплектам запасных частак. Тэл.: 22-0-13
* Опель-Камандор, 1980 г., V-2,5 см.куб., патрабуецца дробны рамонт рухавіка, кошт - $ 900
* цагляны дом у г.п.Рось: агарод і гаспадарчыя пабудовы, маюцца ўсе выгоды (газ, вада, тэлефон). Тэл.: 8-212-36-999
* хамут з падузамі; электрамаслабойку; воск пчаліны; вашчыну; пчаліны інвентар. Тэл.: 39-00-09
* аўтамабіль ВАЗ 2101, 1981 г. у добрым стане, газ, беньзін, прычэпнае прыстасаваньне. Тэл.33-92-42
* аўтамабіль Мазда-626, 1983 г. (танна). Тэл.: у Мастах 2-39-81
* ЦТ Гарызонт-51-510 EI, Гарызонт-51-518 Д з рускім тэлетэкстам; таймер; памяць на 89 праграм. Тэл. з АОН "Палесьсе". Дастаўка. Тэл.: 47-86-07
* дачу, гараж. Тэл.: 44-55-28
* 1-пакаёвую кватэру ў Ваўкавыску ня дорага. Тэл.: у Ваўкавыску 4-83-88, Алег
* мэблю нядорага, новая: пенал кухонны і навясныя шафы (сьветлы арэх, паліраваныя), стол кухонны і 4 табурэткі, мыйка жалезная белая, стол часопісны (сьветлы арэх, паліраваны); прыгожае люстэрка з падсьветкай і палічкай, прыгожы брэсцкі дыван 2 х3 барвовага колеру; б/у: мягкая мэбля, канапа, стол-тумба паліраваныя, стол кухонны рабочы, шафа сушка кухонная. Тэл.: 44-42-84 з 9.00 да 17.00, спытаць Наташу
* дом у г.п.Астрына. Тэл.: 31-56-01 (гарадзкі)

### РОЗНАЕ

* Згублена службовае пасьведчаньне. Вялікая просьба патэлефанаваць. Тэл.: 44-11-38
* Мужчына 30 год пазнаёміцца з жанчынай да 35 гадоў. Зьвяртацца: 230020, Горадня, п/п IV-ДР 509181
* Жанчына да 30 год мае патрэбу ў атрыманьні жыльля ў спадчыну. Згодна на любыя ўмовы. Пісаць: Горадня-5, а/с 123
* Шукаю спонсара-сааўтара для выданьня кнігі "Легенды і праўда жыцьця Паўлюка Багрыма". Пісаць: 225320, Брэсцкая вобл., г.Баранавічы, 293/2, кв.42. Маліноўскаму Міхасю Міхайлавічу.
* запрашаю да супрацоўніцтва прыватнага прадпрымальніка, які мае права на вядзеньне будаўніча-апрацоўчых работ. Пажадана, хто пражывае ў Гомельскай вобласьці. Даведкі пісьмова па адрасе: 246012, г.Гомель, пр-кт Кастрычніка,80, кв.42.
* 50-гадовы мужчына бяз шкодных звычак, вернік, валодае чатырма замежнымі мовамі, і ягоная жонка (былы падатковы інсьпектар з 25-гадовым стажам) шукаюць добра аплачваемую сталую альбо часовую працу ў прыватным сектары. Тэл.: 33-10-58, Барыс Іванавіч і Маргарыта Паўлаўна
* возьмем на працу галоўнага бухгалтара. Тэл.: 47-36-10, 44-27-00
* здаю пакой. Тэл.: 6-74-14
* здаю пакой і памяшканьне для кіёска альбо магазіна. Горадня, Касманаўтаў 65, кв.1, Салей Аляксандр Аляксеевіч

### ПАСЛУГІ

* Пры дапамозе іконы Маці Боскай Супрацьбражнай былы асабісты лекар князёў Радзівілаў (81 год) лечыць алкагалізм, п'янства, залежнасьць ад сьпіртнога. Праца бескарысная. Абсалютны посьпех. Сьпяшайцеся! 230023, Горадня-23, п/с 190. Укажыце тэл. для кантакту

### МЯНЯЮ

* 3-пакаёвую кватэру ў г.Ваўкавыску на 3-пакаёвую ў Горадні па дамоўленасьці. Тэл.: 2-15-96 (у г.Ваўкавыск), 31-46-84 (у Горадні)



## КУПОН • ПРЫВАТНАЯ АБ'ЯВА

Умовы разьмяшчэньня

Для бясплатнай публікацыі на купоне прымаюцца выключна аб'явы прыватнага характару.

На адным купоне можна даць аб'яву толькі ў адну рубрыку, разборліва націсаўшы тэкст і адрас.

Выразаны купон з тэкстам аб'явы адпраўце поштай, альбо прынясіце ў рэдакцыю самі.

9

Імя і прозьвішча ____________

Адрас (тэлефон) ____________

Рубрыка ____________ (ПРОДАЖ, КУПЛЯ, МЯНЯЮ, РОЗНАЕ,ПАСЛУГІ)

Тэкст ____________

БЯСПЛАТНА

Купон сапраўдны на працягу тыдня з моманту выхаду "ПАГОНІ"

ПАГОНЯ
230023, Горадня, вул. Дамініканская,1



MEMORIA

# ЦЯРПЕЎ АД "БЕЛЫХ" І "ЧЫРВОНЫХ"

**Селянін з бунтарскай натурай і задаткамі палітычнага дзеяча. Чалавек, які змагаўся за сацыяльную справядлівасьць, думаў многа, глыбока, сваіх думак ня ўтойваў, гаварыў праўду адкрыта пры любой уладзе. Такім ведалі Вікенція Антонавіча Салыгу ня толькі яго знаёмыя з Феліксава і навакольных вёсак, а і многія жыхары Лідзкага і Шчучынскага раёнаў. Вось за праўду, справядлівасьць зьведаў Вікенці нямала пакут, як гавораць, і ад белых, і ад чырвоных.**

Імя В.Салыгі часта называлася ў былым Лідзкім павеце міжваеннай Польшчы. Мясцовыя сяляне, рабочыя ўспаміналі яго добрым словам. Зусім іншую ацэнку давалі польскія ўлады. Для іх Вікенці Антонавіч быў падбухторшчыкам-бальшавіком, амаль што агентам Масквы. Чаму? Бо ўзначальваў павятовы камітэт Беларускай сялянска-рабочай грамады, арганізацыі легальнай, зарэгістраванай згодна з правам у дзяржаўных інстанцыях. Ды ўладам вельмі ж не падабалася, што Грамада настойліва выступала за нацыянальную роўнасьць беларусаў у Рэчы Паспалітай, за навучаньне іх дзяцей на роднай мове, за іншыя дэмакратычныя свабоды, за самавызначэньне Заходняй Беларусі і аб'яднаньне ўсіх беларускіх зямель у адной дзяржаве.

Пра дзейсную работу Грамады нядаўна прыгадала ў гутарцы са мною былая аднавяскоўка В.Салыгі Марыя Іванаўна Дула, вядомая на Лідчыне зьбіральніца і захавальніца народных песень, паэтка. Калі Вікенці Антонавіч, будучы грамадоўскім дзеячам, самаахвярна змагаўся за беларускую справу, маленькая Марыя хадзіла ў пачатковую школу. Але ў дзіцячай памяці назаўсёды засталіся размовы старэйшага чалавека пра людскую крыўду. Марыя і сёньня добра памятае, як Салыга распаўсюджваў сярод землякоў беларускія кнігі, разам з іншымі актывістамі наладжваў у вёсках канцэрты і сьпектаклі. Пастаноўку па п'есе "Саўка і Маргарыта" рыхтавалі і ў Феліксаве. Ды ўмяшалася паліцыя і забараніла яе. Сапраўдным паратункам тады былі кнігі на беларускай мове для дзядзькі Лаўрэна, роднага брата Манінага бацькі, які з-за калецтва быў прыкаваны да ложка.

- Я таксама мела непрыемнасьці за сваю любоў да роднай мовы, -прыгадвае Марыя Іванаўна. - Нейк на ўроку настаўнік спытаў у вучняў, ці чулі яны пра Янку Купалу, хто ён такі? Спадзяючыся на пахвалу, я сказала, што гэта беларускі пісьменнік. Ой, што тады пачалося ў класе! Пасыпаліся з вуснаў настаўніка пытаньні: "Адкуль ты гэта ведаеш?" Рэплікі: "Ніякай Беларусі няма!" "То ўсё крэсы"... Доўга пасьля таго і я, і мае бацькі ня мелі спакою. Баяліся непрыемнасьцяў ад паліцыі і ўлады.

Мне, як журналісту, ня раз даводзілася сустракацца і гаварыць з Салыгам. Гэта была цікавая асоба. Як узьнёсла ён расказваў пра барацьбу люду Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне! У 1925-27 г.г. Грамада была вядомай палітычнай сілай. Забастоўкі на прадпрыемствах Ліды і Бярозаўкі, акцыі ў гонар І Траўня, рух за адкрыцьцё беларускіх школ, за вызваленьне палітзьняволеных - гэтыя і іншыя клопаты ўваходзілі ў кола дзейнасьці гуртка Беларускай сялянска-рабочай грамады. Аб няспынным росьце яе папулярнасьці на лідзкай зямлі сьведчаць такія лічбы. Па няпоўных зьвестках, колькасны састаў арганізацыі БСРГ за другую палову 1926 года вырас у павеце са 148 да 1778 членаў. Моцныя ячэйкі грамадоўцаў працавалі ў Лідзе і ў шэрагу вёсак (Сялец, Шпількі, Ганчары і іншыя.)

Грамада ўмела несьці свае ідэі і мэты ў народ. Для гэтага выкарыстоўвалі розныя метады. Многае рабілі для пашырэньня яе ўплыву гурткі, якіх на Лідчыне было 52. Распаўсюджанай формай работы былі выступленьні грамадоўскіх дзеячоў перад людзьмі на кірмашах і базарах. Тут з простым людам сустракаліся Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла, Павел Валошын і іншыя дзеячы нацыянальнага адраджэньня. Аб гэтых незабыўных спатканьнях з хваляваньнем расказваў Вікенці Антонавіч. А са сваіх мясцовых паплечнікаў В.Салыга называў Мікалая Сароку і Канстанціна Чайкоўскага з Ліды, Івана Сідара са Шпількоў, Юльяна Урбана з Сяльца...

Ды над Грамадой зьбіраліся навальнічныя хмары. У 1927 годзе гэтая арганізацыя была забаронена польскімі ўладамі. А неўзабаве яны правялі некалькі судовых працэсаў, паставіўшы мэтай расправіцца з патрыётамі. У Віленскім акруговым судзе вясною 1928 года адбыўся "працэс 56-ці" - над кіраўнікамі і актывістамі Грамады. Сярод абвінавачаных на гэтым судзілішчы быў і В.Салыга.

У чым была іх віна? Назавём адзін характэрны штрых, які сьведчыць пра атмасьферу таго працэсу. Выступоўца-сьведка паліцэйскі Махерскі абвінавачаў В.Салыгу за выказваньне на мітынгах і сходах аб тым, што няма беларускіх школаў. Тады Браніслаў Тарашкевіч задаў паліцыянту на беларускай мове пытаньне: "Дык, на думку сьведкі, Салыга ня меў права гаварыць, што беларускіх школаў няма?" Азадачаны паліцэйскі заявіў, што ён не разумее па-беларуску і патрабаваў, каб яму задалі пытаньні па-польску. Пасьля чаго Б.Тарашкевіч спытаў: "Дык прашу суд сказаць, я маю права гаварыць па-беларуску ці не?" Старшыня вымушаны быў пацьвердзіць такое права. Тады зноў раздаўся гучны голас Тарашкевіча на гэты раз да ўсіх прысутных: "Дык калі ж будзе канец гэтым камедыям?" У адказ старшыня суда запатрабаваў вывесьці Браніслава Адамавіча з залы судовага паседжаньня. Тады падняўся Максім Бурсевіч і запатрабаваў, каб і яго разам з Тарашкевічам вялі ў турму. Такое ж патрабаваньне ў знак салідарнасьці са сваімі кіраўнікамі выставілі і іншыя абвінавачаныя. Старшыня вымушаны быў перапыніць судовы працэс і адкласьці пасяджэньне на другі дзень.

І ўсё ж расправа над грамадоўцамі адбылася. Кіраўнікі арганізацыі былі асуджаныя на 12 гадоў цяжкага турэмнага зьняволеньня, іншыя падсудныя - ад 3 да 6 гадоў няволі. Асуджаныя сустрэлі прысуд сьпяваньнем гімна Грамады "Ад веку мы спалі". А дэпутаты польскага клуба "Змаганьне" віталі мужных змагароў кветкамі і воклічам: "Няхай жыве Беларуская сялянска-рабочая грамада!"

Пасьля віленскіх Лукішак барацьбітоў за народнае шчасьце чакалі ня менш страшныя астрогі - Вронкі, Рэвіч, Грудзендз і іншыя. У перасыльнай турме Варшавы Салыга апошні раз бачыўся з Б.Тарашкевічам.

Пасьля выхаду з турэмных засьценкаў Вікенці Антонавіч вярнуўся ў родныя мясьціны і працягнуў сьвятую справу свайго жыцьця. На гэты раз у шэрагах Таварыства беларускай школы, пакуль яно не было, як раней Грамада, забаронена. А неўзабаве наступіла ўзьяднаньне беларускага народа ў адзінай дзяржаве.

Верасень 1939 года. Гэта былі самыя шчасьлівыя дні ў біяграфіі В.Салыгі. З першых дзён вызваленьня натхнёна ўзяўся ўсталёўваць народную ўладу. Быў абраны старшынёй Лебядзкага валаснога выканкама, дэпутатам народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку. Там з чыстым перакананьнем душы галасаваў за ўзьяднаньне.

Аднак хутка вялікая радасьць зьмянілася непрыемнасьцямі. Ня ўсё, што рабілася, як кажуць, пры тых Саветах, падабалася Салыгу. І ён ня ўтойваў сваёй думкі. А тут знайшліся "дабрадзеі" і падкінулі куды трэба на чалавека сігнал. Вясною 1940 года супрацоўнікі Жалудоцкага райаддзела НКУС ( тады Феліксава ўваходзіла ў Жалудоцкі раён) арыштавалі Вікенція Антонавіча і адправілі яго ў Архангельскую вобласьць у лагер.

З лагера чалавека вызваліла яго жаданьне ваяваць супраць фашызму. У Чырвоную Армію зэкам-заходнікам ходу не было, таму Салыга падаўся ў фармаваную ў СССР армію польскага генерала Андэрса. Прайшоў там баявую падрыхтоўку, але на фронт ня трапіў. Аказаўся з польскімі часткамі ў Іране. І зноў земляка нашага напаткала злая доля. За мяжой яго пазнаў былы лідзкі "стшэлец", пасьля чаго - арышт і ваенна-палявы суд. Салыгу абвінавацілі ў тым, што ён у даваеннай Польшчы "ўбіваў нож у польскую сьпіну", і пасадзілі за краты. Адбываць зьняволеньне павінен быў у англійскай турме ў Палясціне. Па дарозе туды ўцёк і доўгі час працаваў рабочым у розных месцах Ірана.

Толькі пасьля сьмерці Сталіна В.Салыга змог вярнуцца на родную зямлю. Праз некаторы час Вярхоўны Суд БССР яго рэабілітаваў. Вікенці Антонавіч (тады яму было пад 60 гадоў) працаваў у калгасе, потым шмат гадоў правёў у Казлоўшчынскім, Мінойтаўскім і Шчучынскім дамах для састарэлых. І на схіле жыцьця ён не мяняў сваіх перакананьняў, не прыстасоўваўся. Памятаю, у Малым Мажэйкаве мне расказвалі, як гэты чалавек паставіў у незайздроснае становішча дырэктара саўгаса.

А было так. Прыйшоў ветэран у цэнтр гаспадаркі сонечным верасьнёўскім ранкам, сустрэў кіраўніка. Прывітаўшыся, павіншаваў дырэктара са сьвятам. А той пытае: "Сёньня што вялікае сьвята?" У адказ пачулася: "Наша, савецкае! Дзень узьяднаньня Беларусі. Ня грэх было б і флаг над канторай вывесіць..." Вікенці Антонавіч раптам павярнуўся і пакрыўджаны пайшоў прэч.

Вядома, такія зьявы не падабаліся начальству. Будучы ў дамах-інтэрнатах, В.Салыга прасіў часьцей праводзіць гутаркі з асуджанымі на цяжкі лёс людзьмі, крытыкаваў кіраўнікоў, што яны недастаткова выпісваюць для грамадзкага карыстаньня перыядычных выданьняў. Пра гэта пісаў заметкі ў абласную і раённую газеты. За што ня ведаў сімпатыі з боку кіраўнікоў і згаджаўся перабрацца ў іншае месца прытулку. Памятаю, завітаў я да Вікенція Антонавіча, калі ён знаходзіўся ў Шчучынскім доме састарэлых. Амаль з парога стары чалавек папрасіў у мяне адрас Янкі Брыля. Надумаў зьвярнуцца да яго з просьбай, каб перавялі ў іншую палату. Справа была ўвечары, дырэктара не было, каб перагаварыць з ім. Напісаў я кіраўніку ліст з Ліды, і Салыгу пайшлі насустрач. Абышлося без пісьма народнаму пісьменьніку.

Што і казаць, цяжкія жыцьцёвыя пуцявіны выпалі на долю дзеяча Грамады. Дастойна жалю, што чалавек, які нямала рабіў для нацыянальнага адраджэньня, для перамогі народнай улады, так і не дачакаўся прызнаньня грамадзтва.

**А.ДУБРОЎСКІ.**

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК І Ў ВАРШАВЕ ПАМЯТАЕ ПРА ІВЯНЕЦ

Амаль дзесяць гадоў Івянец знаходзіўся ў зоне радыяцыйнага забруджаньня ад 1 да 5 кі на кв.м, а зараз Кабінет Міністраў РБ сваёй пастановай ад 19 лютага N 116 ашчасьлівіў івянчан - мястэчка стала экалагічна чыстым. Гэта ўсяляе аптымізм, але праблемы лячэньня хворых людзей засталіся, бо па загаду зьверху нельга забараніць узьдзеяньне радыёнуклідаў на арганізм чалавека.

Улічваючы гэтую акалічнасьць, лідэр БНФ Зянон Пазьняк пад час свайго турнэ па краінах Эўропы, накіраваў гуманітарную дапамогу з Аўстрыі ў Івянец у выглядзе лекаў для дзяцей на суму 28,8 мільёна рублёў. Напярэдадні дзесяцігадовага чарнобыльскага "юбілею" гэты каштоўны падарунак быў перададзены ў Івянецкі шпіталь.

Жыхары Івянца, якія большасьцю галасоў падтрымалі Зянона Станіслававіча ў час прэзідэнцкіх выбараў, застаюцца глыбока ўдзячнымі самаахвярнаму патрыёту Бацькаўшчыны і зычаць яму посьпехаў у палітычнай дзейнасьці на карысьць Беларусі.

**сп.АДАМОВІЧ, п.Івянец.**

## БАЛЯВАНЬНЕ Ў ЧАС ЧУМЫ

Уважліва сачыў за ходам фестывалю народаў Беларусі, які нядаўна праходзіў у Горадні. Усё маляўніча, прыгожа. Гэта "бацька" і яго каманда вырашылі выставіць напаказ усе нацыянальнасьці, якія насяляюць нашу краіну. Вось якая, аказваецца, у нас цяпер чэсная і "усехлюбячая" ўлада. На фоне таго, што робіцца цяпер з беларускай мовай, гісторыяй і культурай - гэта баляваньне ў час чумы. Інакш ня скажаш. Мне, не беларусу, сорамна і балюча, што такі прыгожы народ вымушаны шанаваць усё чужое, а сваё, роднае ад вякоў, адпіхваць.

**Рыгор ФАРМАНЯН, Горадня.**

## ГОСЬЦІ З АНГЛІІ Ў ЗАБАЛАЦІ

Днямі ў Забалацкай сярэдняй школе Воранаўскага раёна адбылася сустрэча вучняў са сваімі землякамі, якія прыехалі з Англіі. Гэта Эдвард Мэркіс і Уладзіслаў Кяндзіра з горада Лестара. Нягледзячы на шматлікія дабрачынныя справы, госьці знайшлі час і для дзяцей.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**




**7 чэрвеня**

**1492г.** У Горадні памёр Казімір Ягелончык - кароль і вялікі князь. Вядомы як цэнтралізатар дзяржавы, спрыяў развіццю мастацтва і навукі.

**1925г.** Нарадзіўся Эдвард Паўловіч, мемуарыст, мастак, асьветнік, удзельнік паўстання 1863/64гг. Жыцьцё і дзейнасць яго прайшлі пераважна ў Навагрудку.

**1880г.** У маёнтку Лябёдка (цяпер Шчучынскі раён) нарадзіўся Вацлаў Іваноўскі, выбітны палітычны і грамадзка-культурны дзеяч, адзін з пачынальнікаў нацыянальнага Адраджэньня.

**13 чэрвеня**

**1702г.** Нарадзіўся Міхал Казімір Радзівіл "Рыбанька", вядомы магнат і палітычны дзеяч ВКЛ.

**1971г.** Памёр Сяргей Прытыцкі, беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч.

**1855г.** У Горадні здарыўся страшэнны пажар, згарэла каля 415 жылых дамоў.

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**



## КАРУСЕЛЬ У ЧЭЗЕНАТЫКА

За гады незалежнасьці Беларусі тысячы беларускіх дзяцей адпачывалі ў Італіі. Раней здавалася немагчымым прайсьці апенінскімі шляхамі Францыска Скарыны. Але стаўся сапраўдны цуд, дзякуючы нашым італьянскім сябрам і такім людзям на Беларусі, як супрацоўнікі Дзіцячага Фонду духоўнага і інтэлектуальнага адраджэньня "Сакавік".

**Валеры БУЙВАЛ.**

**На здымку: беларускія дзеці ў Чэзенатыка.**





С П О Р Т

# ВІВАТ ЯГО ВЯЛІКАСЬЦІ БАСКЕТБОЛУ!

**Апошнім днём траўня старажытны тэатр Тызенгаўза сабраў людзей улюбёных у баскетбол. Імпрэза ўгонар майстроў з "Гродна-93" -чэмпіёнаў краіны - пераўтварылася ў гімн гульні, якая аб'яднала вельмі адрозных, але захопленых спортам асобаў.**



Адмыслова граў запрошаны аркестр, а напрыканцы публіку бавілі сьпевакі музычнай студыі "Забава" з вучэльні мастацтваў. Вёў вечарыну прэзідэнт клубу Аляксандр Мілінкевіч. Ён узгадаў старонкі гісторыі разьвіцьця баскетболу на Гарадзеншчыне. Было шмат успамінаў, часта ўзгадвалі славутага Івана Ядэшку. Апошні меўся прыехаць у родны горад, але ўсё ж ня здолеў выбрацца з Масквы (Ядэшка працуе зараз другім трэнерам у ЦСКА). Цёплымі воплескамі сустрэлі прысутныя "чалавека з легенды" - Пятра Навумюка, які гуляў за Горадню яшчэ ў 1936-ым. Ветэран узнагароджваў сьвежасьпечаных чэмпіёнаў залатымі медалямі. Каштоўныя падарункі прэзентаваў аблвыканкам, а дырэктар аб'яднаньня "Гроднаэнэрга" проста прыслаў торбу з грашыма. Выступоўцы (а іх было шмат) знаходзілі пранікнёныя словы. Ад навучэнцаў ДЮСШ віншаваў Саша Кец - малодшы з дынастыі. А галоўны трэнер - Яўген Кец - выявіў сябе як дасьціпны прамоўца, выдаўшы некалькі рэпрызаў эстраднага характару. Але найбольш апладысментаў і асаблівых адзнакаў сарваў, відаць, Уладзімір Шарко. Напярэдадні стала вядома, што ён прызнаны лепшым баскетбалістам Беларусі. З гэтым меркаваньнем пагадзіліся і фундатары "Гродна-93" (Аляксандр Талканіца ўручыў лаўрэату галоўны прыз - тэлевізар фірмы "Самсунг").

Экспрэс-інтэрв'ю з героем нацыянальнага чэмпіянату:

***- Уладзімір, давайце адкінем псеўдасьціпласьць - лічыце сябе сапраўды мацнейшым?***

- Калі шчыра, лепшым сябе ў краіне не адчуваю, проста я знайшоў сябе ў гэтай каманьдзе, тут у мяне атрымліваецца тое, што наўрад удалося б у іншым клубе.

***- А як бы Вы вызначылі тройку лепшых у мінулым першынстве?***

- У нашым клубе назаву Грыгор'ева, Альшэўскага і, выбачайце, сябе. Што тычыцца іншых... Упэўнена правёў сезон Аляксей Пыньцікаў з РТІ, мазаўскія ветэраны (з каманды "Аўтазаводзец-Джэнці" - Х.К.) паказалі сябе прыстойна.

***- Ці не абдзелена "Гродна-93" увагай трэнераў нацыянальнай дружыны?***

- У асноўным у зборную трапляюць са сталіцы, кандыдатаў з перыферыі часта забываюць.

***- З іншых краінаў запрашэньні маеце?***

- Пакуль нічога не магу сказаць канкрэтна. Цяпер галоўная мэта -моладзевы чэмпіянат Эўропы, з ім зьвязаны ўсе думкі і памкненьні. А пасьля будзе бачна.

* * *

Пераможная эйфарыя пройдзе хутка. Наперадзе цяжкія выпрабаваньні ў Кубку Корача. Для прыстойнага выступу ў гэтым турніры спатрэбяцца немалыя выдаткі. Спонсары гатовыя забясьпечыць значную іх частку. Слова за ўладамі. Ветэраны гарадзенскага баскетболу зьбіраюцца нават зьвярнуцца з хадайніцтвам да старшыні аблвыканкама Аляксандра Дубко (ён вядомы як вялікі прыхільнік папулярнай гульні). Пара, нарэшце, надаць перспектыўнаму клубу прыярытэтную ўвагу.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: узнагароды чэмпіёнам з рук Пятра Навумюка.**

**Фота Яраслава ВАНЮКЕВІЧА.**

## АБСУРД І ТАЛЕНТ



**Беларуская федэрацыя хакею на траве не заявіла моладзевую жаночую каманду краіны для ўдзелу ў чэмпіянаце Эўропы ў студзені 1997 года. Інакш, як абсурдным, учынак федэрацыі назваць нельга - на мінулым чэмпіянаце зборная Беларусі, складзеная з гарадзенскіх дзяўчатаў, заняла ў мацнейшай групе "А" чацьвёртае месца. І на гэты раз яна магла б рэальна змагацца за медалі.**

Коштам неверагодных намаганьняў, выкарыстаўшы свой аўтарытэт і сувязі ў сьвеце жаночага хакею, галоўны трэнер зборнай і гарадзенскага "Рытму" Ала Грэсь усё ж здолела заявіць беларускую зборную для ўдзелу ў чэмпіянаце. Але толькі ў групу "Б". А тым часам "Рытм" з 4 чэрвеня бярэ ўдзел у заключным туры адкрытага першынства Украіны. Пасьлязаўтра гарадзенкі згуляюць вырашальную гульню за трэцяе месца з івана-франкоўскай "Раксаланай".

**Вітаўт РУДНІК.**

## ГАРДЗЕЙ ЗЬБІРАЕЦЦА Ў АТЛАНТУ

Майстар спорту міжнароднага класу па спартыўнай хадзьбе Віталь Гардзей з вёскі Цюпішкі Ашмянскага раёну заняў першае месца на дыстанцыі 50 км на прадстаўнічых міжнародных спаборніцтвах у чэшскім горадзе Падэбрадэ. У спаборніцтвах прымалі ўдзел спарцмены з Аўстрыі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Канады, Нідэрландаў, Чэхіі, Швецыі, Украіны, Беларусі, Літвы.

Чацьвёртым быў Віталь і на дыстанцыі 20 км у венгерскім горадзе Бекемаба. Гэтыя посьпехі даюць падставу спадзявацца на пуцёўку ў Атланту.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## З АШМЯН У ПОЛЬШЧУ

Хор чацьвёртакласьнікаў Ашмянскай сярэдняй школы N 1 прымаў удзел у прэстыжным усяпольскім фестывалі дзіцячай песьні ў Лодзі. Выдаткі на паездку аплаціла "Спулнота польска". "На фестывалі была нейкая асаблівая ўвага да беларускіх дзяцей", - гаворыць кіраўнік хору Людміла Багдановіч. Акрамя ашмянцаў, у фестывалі прымалі ўдзел дзеці з Горадні, Слоніма і Баранавіч.

Ашмянскі хор выканаў дзьве песьні, атрымаў мноства падарункаў і запрашэньне на наступны фестываль.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# ЧАРОЎНЫ ПАХ КУПАЛЬСКІХ ЗЁЛКАЎ...

**Ад дзяцінства мы любім казкі. Яны чаруюць вобразамі, неверагоднымі пераўтварэньнямі і перамогай дабра над злом. Сталеючы, мы заўважаем, што ўсё менш часу застаецца на мары, летуценьні і казкі. Але два разы на год нам дадзена вяртаньне ў надзвычайны сьвет казкі - у самую доўгую ноч Хрыстова Нараджэньня і ў самую кароткую Сьвятаянскую ноч. Каляды і Купальле - спрадвечная казка, у якой нараджаецца і адраджаецца жыцьцё...**

Кожны народ уваходзіць у цывілізацыю праз міф. Памятаеце, у грэкаў быў міф пра выкраданьне Эўропы? Беларуская мінуўшчына падаравала нам міф пра каханьне Дажбога да залатакосай прыгажуні Лялі, бацька якой -марскі валадар - не хацеў аддаваць сваю дачку сыну Пяруна і цяжка параніў недарэчнага жаніха. Але малады закаханы ведаў жаночыя слабасьці. Ён паслаў свайго служку з дарагімі строямі і неверагоднымі зялёнымі чаравікамі, якія той расклаў на беразе мора. Ляля спакусілася на ўсю гэтую прыгажосьць, выйшла на бераг, дзе яе і скраў Дажбог. Чым не сусьветна вядомы міф пра Зеўса і Эўропу? Зрэшты, што грэкі, што беларусы, - усе мы дзеці аднаго бацькі.

Далей беларусы ператварылі Дажбога ў Янку, а Лялю ў Купалінку, потым зьявілася сьвята Сьвятога Яна, у якім пераблыталіся часы паганскія і хрысьціянскія, - так атрымалі мы ў спадчыну сьвята Купальле. Вусная паэтычная творчасьць нашага народа асабліва вытанчана і разнастайна апела Купальскую ноч зі усімі ўласьцівымі ёй звычаямі, чарамі, легендамі і забабонамі. У гэтым, самым значным пасьля Калядаў, сьвяце беларускага народнага календара ўвасобілася наша любоў да прыроды і звычаяў праайцоў, якая амаль самастойным, падсьвядомым жыцьцём жыве ў кожнай беларускай душы.

Больш за тысячагоддзе дзівосная ноч з 23 на 24 чэрвеня перагукваецца ў лясах і гаях галасамі шукальнікаў папараць-кветкі, разьліваецца срэбраным бляскам на вадзе рэкаў і азёраў, шапаціць размовамі, што вядуць між сабой дрэвы, успыхвае высокімі вогнішчамі, зарошвае гаючай расой, сьвеціць белымі строямі ўдзельнікаў спрадвечнай містэрыі.

Чароўны пах купальскіх зёлкаў блукае па нашых пакоях да наступнага сьвята, як настальгічны ўспамін пра лета і самую загадкавую ноч. Кожны ведае: зёлкі, сабраныя ў купальскі тыдзень, маюць асаблівую моц і карысьць.

Ад першых пахаднянскіх сьвяткаваньняў Купальля на румлёўскім беразе Нёмана засталіся ў памяці бел-чырвона-белыя ветразі лодкі, на якой прыплыў князь са сваёй дружынай, маленькая Агатка-чарцяня, вянкі са сьвечкамі на Нёманскай плыні, непаўторны водар купальскага леса...

Ёсьць прыкмета: таго, хто не прыйдзе да купальскага вогнішча, чакае марны лёс, а хто ня выкупаецца перад узыходам сонца і не павітае яго першых промняў, ня зможа адрадзіцца. Вось бы выкупаць у купальскіх водах усю Беларусь, змыць з яе ліпкі бруд апошніх гадоў і адрадзіць, найперш, маральнасьць яе народа, здольнасьць да адчуваньня мяжы дабра і зла.

**Т.КАВЕЦКАЯ.**

К Р Ы М І Н А Л

### ХТО ДЛЯ ЧАГО ХОДЗІЦЬ У ГОСЬЦІ

Жыхарка Горадні, беспрацоўная С., паведаміла ў міліцыю, што пасьля адыходу гасьцей, у невядомым кірунку "пайшлі" таксама 490 даляраў ЗША і залатыя ўпрыгожваньні. Супрацоўнікі міліцыі спрабуюць адшукаць "прыемных" гасьцей, аднак праблема ў тым, што заява ад пацярпелай паступіла толькі праз 10 дзён пасьля здарэньня.

### НАВАТ І САБАКА НЕ ДАПАМОГ

Пеньсіянер з пасёлка Паўднёвы ўзмацніў ахову сваёй "Мазды" 10-месячным шчанём каўказскай аўчаркі. Якое ж было яго зьдзіўленьне, калі раніцай з машыны зьнікла ня толькі магнітола, але і любімы чацьвераногі сябра.

### БУДУЧЫЯ ЮРЫСТЫ - ЗЛАЧЫНЦЫ

Шыкоўную "Аўдзі", якая была скрадзена на вул.Дзяржынскага ў ноч на 30 траўня, супрацоўнікі крымінальнага вышуку знайшлі хутка, ужо на другі дзень. Удалося высьветліць і асобы злачынцаў, трох 20-гадовых хлопцаў. Зусім не выпадкова, што двое з іх – студэнты юрыдычнага факультэта Гарадзенскага універсітэта. Дастаткова добрае веданьне крымінальнага кодэксу і іншых тонкасьцяў юрыспрудэнцыі дапамагала будучым юрыстам зьдзяйсьняць сваё злачынства альбо злачынствы, таму што ў сьледчых ёсьць падставы меркаваць аб дачыненьні затрыманых да некаторых іншых крымінальных справаў.

**Г.ХАЛЯНКОЎ.**

### САПЁРАЎ ПРЫМУШАЮЦЬ ЗАЙМАЦЦА ГЛУПСТВАМ

Школьнікі-падлеткі працягваюць тэрарызаваць школы паведамленьнямі пра нібыта закладзеныя міны. Па выкліках выязджаюць сапёры і працуюць па поўнай праграме. Ніхто ня хоча браць на сябе адказнасьць не адгукацца на правакацыйныя званкі, нават у выпадках відавочных дзіцячых жартаў.

Між тым, сапраўднай працы ў сапёраў хапае. Толькі ў гэтым годзе быў абясшкоджаны снарад па вул.Дамброўскага ў Горадні, два снарады ў вайсковым гарадку па вул.Чырвонаармейскай (11-ы гарадок) і нават ва Уладзімірскай царкве (вул.Перамогі).

**С.С.**

### БУДУЦЬ ПЛАЦІЦЬ ЗА "БОМБУ"

Напрыканцы навучальнага года ў міліцыю паступіла паведамленьне, што пад Крупаўскую школу (Лідзкі раён) закладзена бомба. Міліцыя, пажарная, "хуткая дапамога" кінуліся ў Крупава. Бомбу, вядома, не знайшлі, а вось "жартаўніка" вылічылі. Ім аказаўся вучань гэтай школы. Яго бацькі выплацяць усе выдаткі, якія ўзьніклі пад час "жарту".

### НАРКАМАФІЯ НАСТУПАЕ

4 кілаграмы наркотыкаў у адным аўтамабілі, 2 пакеты з макавай саломкай у другім - такі ўлоў міліцыі ў Лідзе. Разам з тым у бальніцу горада паступіла двое хлопцаў з наркатычным атручваньнем.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## У КОЖНАГА СВАЕ КЛОПАТЫ

**З пачатку другога квартала 1996 года польска-летувіскую мяжу пачалі патруляваць верталёты. З іх дапамогай польскія памежнікі спадзяюцца перакрыць паветраны калідор па перапраўцы з Летувы ў Польшчу нелегальных эмігрантаў і кантрабанды.**

У мінулым нумары "ПАГОНІ" ўжо паведамлялася пра тое, што за апошнія два гады польская паветраная прастора парушалася з боку Летувы больш за 40 разоў.

Неаднаразовыя спробы Польшчы націснуць на кіраўніцтва Летувы, каб навесьці на мяжы парадак, скончыліся безвынікова. Ды і разьлічваць на супрацоўніцтва з тымі ж летувіскімі паветранымі сіламі не даводзіцца - у іх склад уваходзяць чатыры састарэлыя вучэбна-баявыя самалёты, тры(!) верталёты ды 26 транспартных самалётаў (у асноўным тыпу АН-2). Дыслакуюцца яны галоўным чынам ля Шаўляя і Панявежыса, што даволі далёка ад польскай мяжы. Дзьве старыя вайсковыя радыёлакацыйныя станцыі ля Коўна і Шаўляя хутчэй можна залічыць да музейных экспанатаў. Адзіны сучасны пост паветранага кантролю знаходзіцца ля Клайпеды. Разам з тым і самі летувісы маюць шмат праблемаў з расейскімі вайсковымі самалётамі, якія беспардонна лётаюць з Расеі ў Калінінград.

**В.ДРЭМА.**

## ШАБАШ ЮНЫХ ВАНДАЛАЎ

Дзікаму пагрому днямі падверглася творчая майстэрня вядомага гарадзенскага мастака Сяргея Грыневіча. Двое зламысьнікаў-падлеткаў, залезшы ў памяшканне праз вакно, наладзілі акцыю жахлівага вандалізму: паразьлівалі дарагія фарбы, папалілі пэндзлі, парэзалі каштоўныя палотны (па прыблізных падліках панесеныя страты складаюць каля 9 тысячаў даляраў).

Калі гаспадар майстэрні адчыніў дзьверы, хуліганы яшчэ працягвалі свой вынішчальны шабаш. Мастаку, чалавеку спартыўнага целаскладу, ня склала цяжкасцяў затрымаць юных варвараў. Зараз вядзецца следства. Але наўрад ці атрымаецца напоўніцу скампенсаваць страчанае, аднавіць папсаваныя творчыя набыткі.

**Ладзік Майніч**

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 465
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 1913 Наклад 12978
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 06.06.96
Рэдактар Мікола Маркевіч